**№6 (1569)**

Аўторак, 14 студзеня 2003 г.

Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах

Перыядычнасць —
5 разоў у тыдзень

Кошт свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб Колас**

# Народная Воля

*Надвор'е*

Сёння ўдзень захаваецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, часам снег, мокры снег, месцамі мяцеліца, у заходніх раёнах магчымы дождж, слабы галалёд, на дарогах галалёдзіца. Вецер заходні, 6—11, месцамі парывы да 15—20 м/с. Тэмпература паветра ў Віцебску, Магілёве — -1...-3, Гродне — +1...+3, Мінску — каля 0, Гомелі — 0...-2, Брэсце — 0...+2.

У наступныя двое сутак воблачнае з праясненнямі надвор'е, часам ападкі, у асобных раёнах галалёд. Вецер заходні, 7—12 м/с, месцамі парывы да 15—20. Тэмпература паветра ўначы — -1...-6, удзень — -2...+3.



## Народный марш планируется провести 12 марта

Народный марш "За лучшую жизнь!" планируется провести в Минске 12 марта 2003 года. Об этом объявил координатор гражданской инициативы "Хартия'97", один из инициаторов проведения марша Дмитрий Бондаренко.

Как известно, первоначально Народный марш намечалось провести осенью прошлого года. С инициативой о его проведении выступила группа общественных деятелей — экономист Людмила Грязнова, кинорежиссер Юрий Хащеватский, историк Валентин Голубев, журналист Валерий Щукин, дипломат Андрей Санников. Позднее было принято решение о переносе Народного марша на 2003 год.

Как сообщил Дмитрий Бондаренко, весеннюю акцию планируется провести под социальными лозунгами:

— Сегодня большинство белорусов превратились в нищих. Власть хвалится тем, что средняя зарплата по стране превысила 100 долларов. Но 100 долларов люди зарабатывали еще в 1995 году. Только тогда цены на коммунальные услуги и основные продовольственные товары были в несколько раз ниже нынешних, а образование и медицина в то время действительно оставались бесплатными. К нам обращаются люди с одним вопросом: "Почему вы, оппозиция, молчите и ничего не делаете? Помогите нам защитить себя!".

Если Народный марш состоится, то он состоится между первым и вторым турами выборов в местные советы, чтобы использовать легальную возможность донесения до граждан информации об акции. Инициаторы акции предлагают людям проявить свою гражданскую активность не только на избирательных участках, но и на улице. Они рассчитывают на поддержку молодежных и женских организаций, профсоюзов. В настоящее время идут переговоры с представителями различных политических сил страны о совместном проведении Народного марша.

**www.charter97.org.**

## Сіўчыка выключылі з Партыі БНФ

Прайшло першае сёлета пасяджэнне Сойму Партыі БНФ і Сойму ГА "БНФ "Адраджэньне".

Старшыня Партыі БНФ Вінцук Вячорка праінфармаваў, што за сяброў Партыі БНФ актыўна збіраюць подпісы каля 200 ініцыятыўных груп па ўсёй краіне. Бальшасць з іх ужо сабрала неабходную колькасць. Прэтэндэнты і іх групы выступаюць ад імя Партыі БНФ і пераконваюцца ў людской прыхільнасці да сябе. В.Вячорка адзначыў, што Партыя БНФ сёння адзіная сярод рэальных палітычных структур, якая ставіць пытанне незалежнасці Беларусі на першае месца.

В.Вячорка выказаўся за максімальнае вылучэнне сяброў партыі кандыдатамі ў дэпутаты ад сваіх арганізацый. Ён выказаў меркаванне, што аб'ём і нахабства фальсіфікацый будуць велізарнымі, таму партыйным кандыдатам варта засяродзіцца на агітацыі за партыю і за сябе, маючы на розуме наступныя выбары. Праз два гады Беларусь чакаюць выбары ў парламент, і ўжо сёння варта рыхтаваць глебу для партыйных кандыдатаў.

У межах арганізацыйнага пытання паводле рашэння папярэдняга Сойму разглядалася разбуральная дзейнасць сябры Сойму В.Сіўчыка, які ўжо паўтара года не ўдзельнічае ў працы арганізацыі, але пераконвае яе шараговых сяброў у рэгіёнах не выконваць рашэнні з'ездаў і Сойму. Па прапанове намесніка старшыні прафесара Юрыя Хадыкі абсалютнай большасцю галасоў В.Сіўчык быў выключаны з Партыі БНФ.

## Без цеплазабеспячэння — школа №15 Барысава

З 6 студзеня без цеплазабеспячэння знаходзіцца барысаўская сярэдняя школа № 15. Будынак быў пазбаўлены ацяплення ў выніку выхаду са строю ацяпляльнага катла ў кацельнай вытворчасці "Барысаўдрэва".

У выніку аварыі ў сярэдняй школе размарозіліся трубы сістэмы ацяплення. Усе радыятарныя батарэі, а іх у будынку каля 40, замерзлі і для далейшай эксплуатацыі аказаліся непрыгодныя. Зараз у памяшканнях школы вядуцца работы па замене батарэй і аднаўленні сістэмы ацяплення будынку. Працуюць 5 аварыйных брыгад, 10 зварачных апаратаў.

На вучэбны працэс аварыя не паўплывала — зараз канікулы. А пачынаючы з панядзелка, 13 студзеня, — дня аднаўлення заняткаў, і, мяркуючы па ўсім, увесь наступны тыдзень 1100 вучняў СШ №15 будуць займацца ў другую змену ў сярэдняй школе № 22, а харчавацца — у СШ № 8. Аднавіць цеплазабеспячэнне СШ № 15 плануецца да 18 студзеня.

**Дзмітрый БЕЛЬСКІ.**

МАСКВА—МІНСК

## 19—20 студзеня ў Беларусі будзе знаходзіцца з афіцыйным візітам прэзідэнт Расіі Уладзімір Пуцін

***«Што Вы асабіста хацелі б яму сказаць пры магчымай сустрэчы?»** — з такім пытаннем рэдакцыя «Народнай волі» звярнулася да шэрагу вядомых палітыкаў і звычайных людзей.*

***Анатоль ШУМЧАНКА, каардынатар аргкамітэта па стварэнні грамадскага аб'яднання "Перспектыва", адзін з лідэраў прадпрымальніцкага руху:***

— Я даў бы Пуціну некалькі парад. Па-першае, прытрымлівацца нармальнай логікі ў адносінах да Беларусі і дзейнічаць у адносінах да нашай краіны такім жа чынам, як ён дзейнічае і вызначае свае погляды ў адносінах да Амерыкі і Еўропы. Пуцін павінен, на мой погляд, неяк пазбягаць палітыкі двайных стандартаў. Зараз такія двайныя стандарты адчуваюцца вельмі добра. Па-другое, я даў бы яму параду — убачыць, у рэшце рэшт, відавочныя рэчы: што ў Беларусі ў цяперашнім яе стане будучыні няма. І калі Пуцін хоча, каб у будучым, менавіта ў будучым, у яго былі добрыя зносіны з Беларуссю, ён мусіць даваць усё ж такі аб'ектыўную ацэнку працэсам, якія адбываюцца зараз у нашай краіне.

***Юрась БЕЛЕНЬКІ, выконваючы абавязкі старшыні Кансерватыўна-Хрысціянскай партыі БНФ:***

— Я сказаў бы яму на англійскі манер: "Yankee, go home!" ці пажадаў бы, каб гэты спадар сюды ніколі не прыязджаў. У любой іншай краіне гэта была б вельмі шырокая думка. Гэты чалавек адкрыта і цынічна выступіў з агрэсіўнымі выпадамі супраць нашай краіны, супраць незалежнасці нашай краіны. Згодна з Канстытуцыяй Беларусі, усе падобныя захады супраць незалежнасці — гэта ўвогуле крымінальная справа. У вядомай мінулагодняй заяве Пуціна ёсць прыметы заявы аб магчымых ваенных дзеяннях, аб абвяшчэнні нам вайны. Такі чалавек, як Пуцін, не мае маральнага права наносіць аніякія візіты на тэрыторыю нашай краіны. Калі гэта ўсё ж такі адбываецца, гэта сведчыць пра тое, што ў нас, на Беларусі, не існуе беларускага ўрада, а ёсць урад чужынскі.

***Леанід ЗАІКА, старшыня аналітычнага цэнтра "Стратэгія":***

— Па-першае, візіт Пуціна — рабочы, ён павінен запоўніць паўзу, якая ўзнікла ў апошні час. Ніякага прынцыповага прагрэсу ў адносінах паміж нашымі краінамі не назіраецца, і Пуціну, на мой погляд, цікава зараз паглядзець на цяперашнюю сітуацыю ў Беларусі: у якой ступені сур'ёзнымі з'яўляюцца прагнозы пра вылучэнне Лукашэнкі на трэці прэзідэнцкі тэрмін. Што сказаць расійскаму прэзідэнту? У прынцыпе, прэзідэнты самі газеты чытаюць, знаёмяцца з рознымі інтэрв'ю. На сённяшні дзень, я лічу, прэзідэнт Расіі цудоўна ведае ўнутрыпалітычную сітуацыю ў Беларусі, расстаноўку сіл і прыкладна — мабілізацыйныя, электаральныя і апазіцыйныя магчымасці. Хацелася, каб рэалізм Расіі, які з'явіўся ў апошні час, дайшоў бы і да беларускага кіраўніцтва. Проста хацелася б пажадаць прэзідэнтам і нашым краінам нармальных прагматычных зносін.

***Васіль ШЛЫНДЗІКАЎ, прэзідэнт асацыяцыі садзейнічання эканамічнаму развіццю:***

— Я хацеў бы нагадаць Пуціну народную прымаўку: "Скажы, хто твой сябар, і я скажу, хто ты". У гэтай сувязі зносіны Пуціна з цяперашнім беларускім рэжымам з падкрэсленым імкненнем інкарпарыраваць Беларусь у састаў Расіі гавораць шмат пра што. І мне не хочацца, каб гэты візіт яшчэ раз падкрэсліў жаданне расійскага кіраўніцтва зрабіць гэта. Але я вельмі спадзяюся, што візіт Пуціна не дасць дэмакратычным сілам нагоды ўсумніцца ў чыстых намерах расійскага кіраўніцтва.

***Наталля БАРОЎСКАЯ, урач:***

— Нічога не чула пра візіт Пуціна і, шчыра кажучы, не ведаю, што яму і сказаць. Мяне цікавяць зараз зусім іншыя праблемы.

***Алесь ПУШКІН, мастак:***

— Каб верыць такому чалавеку, як Пуцін, трэба ўбачыць нейкае дзеянне з яго боку. Што я маю на ўвазе? Трэба, каб ён зрабіў тое ж самае, што зрабілі былыя кіраўнікі дзяржаў і спецслужбаў у іншых краінах, — яны пакаяліся за генацыд супраць уласнага народа. Толькі тады ўзнікае давер да палітычнага лідэра. Жывы прыклад — Хельмут Коль, які пакаяўся за злачынствы нацысцкага рэжыму ў Германіі. Пуцін, былы кіраўнік ФСБ, ніяк не пакаяўся за сталінскія рэпрэсіі. Таму даверу ў мяне да яго няма і казаць мне яму няма чаго.

***Аляксандр ЦЫНКЕВІЧ, прэзідэнт РГА "Беларуская асацыяцыя маладых палітыкаў":***

— Мне цяжка даваць нейкія парады кіраўніку дзяржавы, якім з'яўляецца Уладзімір Пуцін. Але хацелася бы пажадаць яму, каб ён ладзіў свае кантакты не толькі з Лукашэнкам, а неяк намагаўся атрымаць аб'ектыўную карціну пра тое, што адбываецца ў нас зараз. У рэшце рэшт Лукашэнка — не адзіная крыніца інфармацыі ў Беларусі, і хацелася б, каб Пуцін прыслухоўваўся і да іншых палітыкаў, у тым ліку апазіцыйных, да грамадскіх дзеячаў, пісьменнікаў...

***Павел НОВІКАЎ, студэнт, будучы перакладчык:***

— Пуцін хоча, каб Беларусь увайшла ў склад Расіі. Пра гэта ён казаў неаднойчы. Я б сказаў яму: "Уладзімір Уладзіміравіч, пакіньце нас у спакоі! Моладзь наша зараз не хоча жыць у Расіі і не давярае Лукашэнку. Ваш цяперашні партнёр — адмоўны гістарычны персанаж у нашай гісторыі. І калі ён страціць уладу, Беларусь будзе супрацоўнічаць з Еўрапейскім Саюзам і ўступіць у НАТО. І спытайце сябе, спадар Пуцін: навошта вам супрацоўнічаць з рэжымам, у краіне кіравання якога бясследна знікаюць палітыкі?".

**Гутарыў Алесь СІЛІЧ.**

НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА

## Прощай, «зайчик»!

*А с ним и большая часть суверенитета Беларуси*

**Борис ЖЕЛИБА, профессор, доктор экономических наук**

В конце минувшего года, как помните, Нацбанк РБ обратился в правительство с предложением вывести из обращения белорусские рубли мелкого номинала, так как их эмиссия давно стала для него убыточной. После довольно продолжительных раздумий Министерство экономики позволило изъять из обращения только банкноту достоинством один рубль. "Достоинство" для этой банкноты, пожалуй, громкое слово — за нее уже давно ничего не купишь. Однако за ней стоит нечто большее. Эта была наша денежная единица, которую можно было держать в руках и при случае предъявить любому интересующемуся иностранцу или нумизмату. В конце концов, это был прообраз нашего ласково именуемого в народе "зайчика" времен премьер-министра В.Кебича. Теперь ему подписан смертный приговор. У европейцев есть 1 евро, 1 крона есть у чехов, 1 злоты — у поляков, 1 лит — у литовцев. У белорусов денежной единицы нет.

Работники торговли переписали все ценники. Теперь цены заканчиваются на 0 или 5. Если раньше покупатели запасались рублевыми купюрами, которые все время просили кассиры, чтобы удобнее и быстрее дать сдачу, сейчас, граждане, запасайтесь пятирублевыми. С этой точки зрения удобней было бы избавиться и от пятирублевок. И неспециалисту очевидно, что купюрное строение денежной наличности, находящейся в обращении в стране, разбалансировано. Многие из нас получали зарплату в основном пятитысячными банкнотами, а то и тысячными. Если зарплата приличная — не знаешь, куда ее запихнуть. Банкноты крупного номинала — 10.000, 20.000 рублей стали чуть ли не редкостью. Опоздавшую в обращение 50-тысячную банкноту многие еще и в глаза не видели. Немного времени минуло с последней деноминации, когда были зачеркнуты на купюрах три нуля, как деньги снова потеряли в весе и снова нарастились эти самые нули на билетах Национального банка РБ. Поэтому народ провел свою деноминацию, называя банкноты номиналом в 1000 рублей просто рублями. Все, что меньше, — деньгами и не считают. Отошла в небытие известная поговорка: "копейка рубль бережет".

К отечественной валюте нужно и отеческое отношение. А наши "зайчики", рубли белорусские, власти, как известно, словно пасынков, готовят к сдаче рублю российскому. И рубль-то слово русское, от слова русского "рубить". Как тут не вспомнить чапаевское "порублю". Нынешние власти своей исторической валюты так и не нашли, как это сделали все бывшие советские республики. И ту, что есть, сдают вместе с частью государственного суверенитета.

Чтобы укрепить самым серьезным образом свою национальную валюту, необходима серьезная работа. Рубли наши нуждаются в значительно большем золотовалютном обеспечении. Его следует увеличить в три раза и нарастить хотя бы до 1 млрд. евро. Но как это сделать? Основные добытчики валюты — наши предприятия-экспортеры — выдыхаются ввиду износа основных фондов. Иностранные капиталы к нам не идут. Национальная валюта обеспечивается и произведенными товарными ресурсами. Желательно современной, наукоемкой, конкурентоспособной продукцией. Но где ее взять в нереформируемой экономике? Проще, конечно, податься к российскому рублю. Он, хоть и невесть что, но попрочнее белорусского.

По поводу перехода на чужую валюту Нацбанк РБ не первый месяц ведет переговоры с Центробанком РФ. По одним слухам, дела там продвигаются, по другим — по принципиальным вопросам стороны стоят на своем. По слухам, российская сторона никак не желает идти на противоестественное белорусское предложение о создании двух эмиссионных центров. Может, рычажок какой белорусам уступят на управление своей эмиссионной квотой, которая все же будет определяться в Москве. Ну очень не хочется Нацбанку, лишенному эмиссионной функции, становиться региональным отделением Центробанка РФ.

Последствия договоренности перехода на российскую валюту можно сегодня только прогнозировать. Важный вопрос: как будут обмениваться белорусские рубли на российские? Один вариант — по рыночному курсу, который ориентировочно можно видеть в валютных обменных пунктах. Другой вариант — более выгодный белорусской стороне, поэтому его вряд ли приемлют россияне, — по паритету покупательной способности валют. Например, если сегодня за 1 российский рубль в обменном пункте дают 60 белорусских, то за 60.000 белорусских у нас в стране можно в целом больше купить всякого товару, чем за 1000 российских в России. Начиная с самой дешевой в Европе и ее окрестностях белорусской водки и заканчивая телевизорами и холодильниками. Цены на средства производства, т.е. товары для предприятий, в России на четверть, а на кое-какие и на треть выше белорусских. Это сулит Беларуси соответствующий рост цен при переходе на российскую валюту.

Как только в течение ряда месяцев курс белорусского рубля будет твердо зафиксирован к российскому, считайте, мы вышли на финишную прямую сдачи национальной валюты. И тогда — прощайте, "зайчики" любого достоинства! Но хочется верить, надо бы верить, что на Беларуси будет своя полноценная, почитаемая своими гражданами и уважаемая другими государствами национальная валюта.

ПАДРАБЯЗНАСЦІ

## Куды знік Мірон?

*Больш за год нічога не чуваць пра легендарнага Мірона, які вывешваў бел-чырвона-белыя сцягі на самых высокіх будынках, слупах і лініях электраперадач па ўсёй Беларусі. Можа, яго даўно схапілі і кінулі ў турму?*

*Мы паспрабавалі высветліць: куды і чаму знік гэты таямнічы персанаж?*

***Мікалай СТАТКЕВІЧ, старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная грамада):***

— Не ведаю. І нават няма ніякіх версій.

***Аляксандр БАЗАНАЎ, кіраўнік Цэнтра інфармацыі і грамадскіх сувязяў КДБ:***

— А хто такі Мірон?.. *(Пачуўшы тлумачэнне):* А-а! Так, нешта такое было, памятаю... Здаецца, я яшчэ шмат чаго не ведаю, але жадаю вельмі хутка ўсяму навучыцца.

***Дзмітрый ПАРТОН, прэс-сакратар Міністэрства ўнутраных спраў:***

— А хто такі Мірон? Клянуся, нічога пра яго не ведаю...

***Юрась БЕЛЕНЬКІ, выконваючы абавязкі старшыні Кансерватыўна-Хрысціянскай партыі БНФ:***

— Мірон не знік, ён, напэўна, займаецца іншай справай. Якой? Адраджэнцкай. Відаць, ён вырашыў, што ёсць у барацьбе за Беларусь больш важныя рэчы, імі Мірон і займаецца. Напрыклад, яго справа — не дапусціць, каб адбыліся падманныя выбары ў мясцовыя саветы, бо гэта адзін з этапаў знішчэння нашай незалежнасці. Напэўна, Мірон тлумачыць людзям, што тыя, хто сёння заклікае на выбары, — здраднікі.

Чаму Мірон больш не вывешвае на будынках бел-чырвона-белыя сцягі? Напэўна, Мірон зрабіў у свой час тое, што было вельмі важна для беларускага грамадства. Ён даў беларусам нейкую веру, надзею, упэўненасць у сабе. Менавіта ў той перыяд часу, калі гэта было найбольш актуальна. Сёння сітуацыя ў грамадстве змянілася, цяпер абсалютная большасць людзей за незалежнасць. І зараз самае важнае — давесці да людзей, *як* змагацца за незалежнасць, як зрабіць, каб не адбылося акупацыі.

Такія людзі, як Мірон, — мужныя і гераічныя натуры. Яны адчуваюць настроі ў грамадстве, ведаюць, што ў канкрэтны момант найбольш важна для людзей. Думаю, у хуткім часе Мірон абавязкова з'явіцца, каб зноў уразіць нас сваёй мужнасцю.

***Вінцук ВЯЧОРКА, старшыня грамадскага аб'яднання «БНФ «Адраджэньне»:***

— Мірон — гэта ёсць з'ява трансцэндэнтная. З'ява не падкантрольная нейкай канкрэтнай арганізацыі. Мірон з'яўляецца і сыходзіць тады, калі гэта патрэбна беларускай будучыні. І ён яшчэ абавязкова з'явіцца.

### Даведка «Народнай волі»

*Мірон — гэта міфічны сучаснік. Яго першая акцыя адбылася ў 1995 годзе, адразу пасля першага рэферэндуму, адным з вынікаў якога было змяненне дзяржаўнай сімволікі. Тады ўпершыню быў вывешаны "незаконны" бел-чырвона-белы сцяг. Пасля гэтага беларускія гістарычныя сцягі з'яўляліся ў самых, здавалася б, непрыступных месцах літаральна па ўсёй Беларусі. Там жа абавязкова пакідалася і папера з подпісам — "Мірон".*

*Некалькі дзён запар бел-чырвона-белы сцяг кожную раніцу лунаў над будынкам гарвыканкама ў Маладзечне. Днём чыноўнікі мянялі яго на чырвона-зялены, але раніцай на тым жа месцы ізноў бачылі бел-чырвона-белы.*

*Праваахоўныя органы доўга шукалі Мірона. Найбольш актыўна — у 1996 годзе. Але не знайшлі. Потым імем Мірона назваліся маладыя людзі, якія ноччу вывешвалі "міронаўскія" сцягі ў сталіцы.*

*Мірон і яго паслядоўнікі заўсёды адзначаюць некалькі дат: дзень падпісання пагаднення аб стварэнні садружнасці Беларусі і Расіі, "Дзень забароны сцяга" і гадавіну бітвы пад Оршай.*

**Марына КОКТЫШ.**

## Да 19 студзеня Вас чакаюць на пошце ці ў любым падпісным пункце

*Зноў некаторыя нашы чытачы наступілі на тыя ж граблі: спазніліся з падпіскай на першую палову 2003 года.*

*Калі Вы хочаце атрымліваць газету з 1 лютага, Вам трэба зазірнуць на пошту ці ў любы падпісны пункт да 19 студзеня.*

*Падпіску можна аформіць на любы тэрмін — ад месяца да заканчэння першага паўгоддзя.*

***Не спазніцеся на гэты раз!***

## Шчукін ідзе ў дэпутаты

Абласная выбарчая камісія задаволіла скаргу вядомага праваахоўніка Валерыя Шчукіна на Полацкі гарвыбаркам, які адмовіў Шчукіну ў рэгістрацыі ініцыятыўнай групы па зборы подпісаў за ягоную кандыдатуру ў якасці прэтэндэнта на дэпутацкі мандат у гарсавеце.

Абласная інстанцыя прызнала, што рашэнне Полацкага выбаркама неабгрунтаванае, і даручыла гарадскому выбарчаму звяну зарэгістраваць ініцыятыўную групу Шчукіна.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

## Офіс АБСЕ адчынены, але...

У панядзелак, 13 лютага, пасля перапынку зноў адчыніўся офіс АБСЕ ў Мінску.

Аднак нікога з замежных прадстаўнікоў у гэты дзень тут не было. Больш таго, падаецца, што яны не так хутка тут з'явяцца. Справа ў тым, што на афіцыйным інтэрнет-сайце АБСЕ з'явілася паведамленне пра тое, што гэтая міжнародная арганізацыя аб'яўляе конкурс на запаўненне свабодных вакансій у офіс АБСЕ ў Беларусі. Прыём дакументаў будзе цягнуцца да 21 студзеня. А канчатковае рашэнне будзе прынятае толькі 3 лютага. Таму многія назіральнікі лічаць, што раней гэтага тэрміну офіс АБСЕ ў сталіцы Беларусі не запрацуе, як кажуць, на поўную катушку.

Ёсць і другая думка. Яе прыхільнікі лічаць, што замежныя супрацоўнікі офісу з'явяцца ў Мінску ўвогуле толькі на пачатку сакавіка. Маўляў, беларускія ўлады будуць усялякімі спосабамі замінаць прыезду міжнародных чыноўнікаў да правядзення выбараў у мясцовыя органы ўлады. А яны, як вядома, прызначаныя на 2 сакавіка.

Дарэчы, з 1 студзеня 2003 года АБСЕ ўзначальвае міністр замежных спраў Галандыі Яап дэ Хоп Схефэр. Яго краіна змяніла ў кіраўніцтве гэтай міжнароднай арганізацыі (такая працэдура адбываецца штогод) Партугалію. Міністр замежных спраў Галандыі ўжо сказаў, што ў спадчыну ім атрыманы "замарожаныя канфлікты". На працягу бліжэйшага года ключавым накірункам дзейнасці АБСЕ, па словах Яапа дэ Хоп Схефэра, стане барацьба супраць незаконнага гандлю людзьмі, зброяй і наркотыкамі. Менавіта пра гэта гаворыцца ў прэс-рэлізе, распаўсюджаным АБСЕ. Барацьба супраць незаконнага гандлю ўпісваецца ў канцэпцыю "бяспекі чалавека", якая будзе пакладзена ў аснову працы АБСЕ ў 2003 годзе.

Міжнародныя назіральнікі ў Вене, дзе размяшчаецца штаб-кватэра АБСЕ, схільныя лічыць, што 2003 год стане паваротным і ў геаграфічным накірунку дзейнасці гэтай міжнароднай арганізацыі. Па іх прагнозах, цэнтр прыцягнення дзейнасці АБСЕ змесціцца з Балкан і Усходняй Еўропы ў накірунку Сярэдняй Азіі і Каўказскага рэгіёна.

**Уладзімір ГЛОД.**

# Ілюзіён

*На Макаёнка, 9, у фае будынка БТ на сцяне — так званы слоган: "Тэлебачанне тваёй краіны!". Каму ён павінен тлуміць галаву — сказаць цяжка, бо тэлевізіёншчыкі ў заклінанне не вераць, а звычайнаму грамадзяніну ў гэтую "зону строгага рэжыму" таксама, як і на экран, трапіць немагчыма.*



Тыя ж, хто ў тэлепраграмах і выпусках навін "падтрымліваюць" і "адабраюць", — удзельнікі звычайнага тэлешоу, якое робіцца вельмі проста: задаецца, скажам, адно пытанне дваццаці прахожым, з якіх пяцёра нават не спыняцца, дзесяць — выкажуць усё, што думаюць, часам, — з мацюкамі, астатнія, хто — шчыра, хто — на ўсякі выпадак, — "адобраць" і "падтрымаюць". Пяцёра апошніх і будуць змантіраваны і паказаны ў эфіры. А калі "згодных" не хапае, выкарыстоўваюцца "падстаўныя", як у цырку. Гэта — ілюзіён: калі адна рука дастае з капелюша "ўсенароднае адабрэнне", пільна сачыце за другою рукой...

Самае страшнае, што мы паціху прывыкаем да ўсіх гэтых фокусаў. Мая былая калега, рэжысёр, якая сама пайшла з БТ, а зараз ледзь не памірае з голаду, бо не можа знайсці работу, на поўным сур'ёзе гаварыла, што ГНТ працуе больш прафесійна, чым БТ. Аказалася, што розніца — у лепшым афармленні студыі і іншых "прыбамбасах". А навіны — тыя ж, што і на І Нацыянальным, за выключэннем ката са "сцігматамі" на спіне, якога аднекуль выкапалі рэпарцёры з ГНТ.

Я гутарыла са сваім былым калегам, пераможцам многіх міжнародных тэлефестываляў Віталем Сямашкам. Можа, яго яшчэ памятаюць па рэпартажах на радыё ў легендарнай "Беларускай маладзёжнай", а потым — па матэрыялах у тэлепраграме "Крок". Мы гаварылі пра лёс БТ, але ацэньвалі ўсё ўжо крыху паіншаму, бо прайшоў пэўны час. Сямашка з горыччу казаў:

— Грамадскасць плюе на тое, што робіцца ў нашай інфармацыйнай прасторы. А тэлебачанне — гэта жахлівая рэч, таму што за месяц-два пры добрай якасці афарбоўкі — ад камп'ютэрнай графікі да мэблі і афармлення ў студыі, плюс кліпы, плюс прычасон, фрэзура вядучых, — і можна на пэўную і досыць вялікую частку аўдыторыі навесці такі тлум пры дапамозе пустых размоваў, які — і гэта зноў феномен тэлебачання — праз месяц-другі ператворыцца ў норму. І гэта — самы жахлівы, самы пякельны эфект БТ.

...Частка тэлеаўдыторыі сапраўды прыняла правілы навязанай гульні; выпускі навін, як мексіканскія серыялы, дапамагалі забыць пра рэальнасць: паглядзеў "пазітыў" на тэму эканомікі — і не думаеш аб пустых кішэнях. Дэкларавалася, што ў выніку канкурэнцыі паміж каналамі ў эфір будзе выпушчана цэлая абойма тэлешэдэўраў, на самай жа справе толькі патроілася ўздзеянне афіцыйнай ідэалогіі, накіраванай на ўмацаванне існуючага рэжыму.

**Сямашка**: "У нас зараз няма ні Б, ні Т, — ні беларускасці, ні тэлебачання, а інфармацыйнае вяшчанне — гэта вяшчанне кабінетнае, якое адлюстроўвае погляды тых, хто сядзіць на верхніх паверхах Адміністрацыі прэзідэнта. І наогул Беларускае тэлебачанне — гэта тэлебачанне падменаў. Паглядзіце, на чым трымаецца ўсё сусветнае тэлебачанне — на "зорках" — асобах цікавых, неардынарных, інтэлектуальных! А ў нас стаўка робіцца на іх адсутнасць. Калі ў Расіі гаворыцца, што трэба працаваць для большасці, маецца на ўвазе, што мусіць быць Познер, якога слухаюць і акадэмікі, і прэзідэнт, і якога разумеюць дзе-небудзь у "тмутаракані". А ў вуснах нашых кіраўнікоў — працаваць для большасці, значыць — для дурняў. Я неяк глядзеў ранішнюю праграму, дзе прывабная спявачка Грыбалёва на поўным сур'ёзе абмяркоўвала з гледачамі праблему, чым адрозніваецца мужчына ад жанчыны. Ніжэй падаць ужо немагчыма!"

...Вядомы паэт і грамадскі дзеяч Генадзь Мікалаевіч Бураўкін неяк сказаў, што ў нас не можа быць познераў хаця б таму, што Познер выказвае свае думкі, якія могуць, скажам, супадаць з прэзідэнцкімі, а могуць і не супадаць, а нашы вядучыя толькі агучваюць уладу. Расказаў ён і пра тэлевяшчанне ў ЗША: там безліч каналаў, сярод якіх шмат сур'ёзных, інтэлектуальных, дзе дэманструюцца дакументальныя, гістарычныя высокапрафесіянальна зробленыя фільмы, стужкі з еўрапейскім, амерыканскім кіно, якое ўжо стала класікай, і гэтак далей. А мае калегі, якім давялося пабываць на замежных тэлестудыях, сцвярджаюць, што дзяржаўныя тэлеканалы там маюць прыкладна тую ж стуктуру і тэматыку, якія былі на БТ да Рыбакова, праўда, пры значна вышэйшым тэхнічным і тэхналагічным узроўні. Што ж датычыцца нашага сённяшняга вяшчання, то, як сцвярджаюць дасведчаныя людзі, яно не вельмі ўдала капіруе горшыя прыватныя кабельныя спадарожнікавыя каналы. І наўрад ці справа ў персаналіях — ненадзейных людзей кіраваць такімі магутнымі "ідэалагічнымі рычагамі", як электронныя СМІ, наша ўлада не назначыць.

...У 80-х я была ў камандзіроўцы ў калгасе, якім кіраваў Сямён Шарэцкі, які потым стаў Старшынёй Вярхоўнага Савета Беларусі. Ён паказаў мне копіі вельмі цікавых дакументаў, рэкамендацыі савецкіх спецслужбаў на ўсе выпадкі жыцця. Асаблівая ўвага ўдзялялася падбору кандыдатаў на кіруючыя пасады любых узроўняў. Імі мусілі быць добрыя выканаўцы, паслухмяныя і дысцыплінаваныя, ініцыятыўнасць, рашучасць, асабістая думка дапускаліся толькі ў абмежаваных, вызначаных рамках, а індывідуальнасць выключалася наогул. Адным словам, "вінцікі", якія змацоўвалі, падтрымлівалі партыйную вертыкаль і лёгка замяняліся.

Гэтыя рэкамендацыі вельмі актуальныя для нашага "аазіса сацыялізму", які пачынае пераўтварацца ў нешта зусім дзікае. Улады зацікаўлены ў тым, каб грамадства стала шэрай паслухмянай масай, і галоўная роля ў гэтым працэсе адводзіцца менавіта электронным СМІ. Так што, калі з адной кішэні выцягваецца лозунг з заклікам аддаць дзённы альбо тыднёвы заробак на будаўніцтва бібліятэкі, не спяшайцеся плакаць ад захаплення, а лепш пільна сачыце за другой рукой, якая ў гэты час знішчае культуру і гісторыю нацыі ў выглядзе архіўных фанаграм радыё. Памятаеце з літаратуры, як у гады Вялікай Айчыннай патрыёты хавалі ад захопнікаў культурныя каштоўнасці? Дык вось зараз работнікі радыё знайшлі па-за сценамі будынка на Чырвонай памяшканне, у якое, тайком ад начальства, збіраюцца перацягнуць спісаныя плёнкі, каб ратаваць іх да "лепшых часоў". Каардынаты памяшкання захоўваюцца ў строгім сакрэце. Так што ўсе гэтыя фестывалі і прыгожыя рэчы пра падтрымку дзяржавай культуры — не больш чым ілюзія.

**Сямашка**: "Мала хто ведае, але на нашым тэлебачанні была магчымасць стварыць канал, аналагічны "Культуры", раней, чым у Расіі. У 1995 годзе я быў намеснікам генеральнага дырэктара тэлебачання, і мы выйшлі на кантакт з каналам АРТЭ — самым інтэлектуальным у Еўропе. Гэта — канал еўрапейскай духоўнасці, створаны па ініцыятыве Гельмута Коля і Франсуа Мітэрана. Прыехаў праграмны дырэктар, і мы ўпершыню правялі двухгадзінны дыялог у прамым эфіры пра агульначалавечыя падыходы да другой сусветнай вайны. Пасля, падчас перамоваў, узнікла ідэя перавесці дыялог у рэжым пастаянна дзеючага тэлеканала — культурна-інфармацыйнага дыялога паміж Усходам і Захадам. На сённяшні дзень нават у камерцыйным сэнсе ўмовы былі — звышшыкоўныя! Я пабываў у Страсбургу, праглядзеў некалькі дзесяткаў дакументальных кінастужак, нам давалі бясплатную "пракрутку" фільмаў, якая на Захадзе каштуе дзве тысячы марак, да нас прыязджалі заходнія інтэлектуалы, — яны ўяўлялі, што Беларусь стане часткай Еўропы, і шчыра хацелі дапамагчы. Праект супрацоўніцтва быў гатовы, але тут наш прэзідэнт сказаў пра сваю прыязнасць да асобы Адольфа Гітлера. Нам патэлефанавалі з германскай амбасады і сказалі: *"Прабачце, мы не можам служыць дэмакратычнай шырмай для дыктатуры!"*. Так былі ўпушчаны вялікія магчымасці. Для мяне асабіста гэта вырасла ў тое, што АРТЭ прафінансаваў праект "Аазіс", які ажыццявілі мы з Юрыем Хашчавацкім: знялі фільм да 10-годдзя чарнобыльскай катастрофы, які прайшоў на ГРТ, у Францыі і Германіі. Чаму яны ўхапіліся за Чарнобыль? У тэлевізійнай прасторы мы цікавыя сваёй самабытнай прадукцыяй. Мы можам перамагаць на фестывалях, нашы праграмы будуць купляць і глядзець, калі яны будуць пра Беларусь. Так што адзінае, чым мы можам браць, — рабіць праграмы пра тутэйшае жыццё для тутэйшых людзей!"

..Лукашэнка падчас наведвання ГНТ і СТБ таксама гаварыў пра неабходнасць здымаць такія перадачы. Але не забывайцеся пра законы жанру: ці можа з'явіцца сёння праўдзівая перадача пра сапраўднае жыццё? І навошта было ўбіраць тыя, што ўжо ішлі? Існаваў, напрыклад, цыкл пад назвай "Дрэва жыцця" — пра наш радавод. Перадачы былі па-сапраўднаму таленавітымі, але з прыходам Рыбакова зніклі з экрана. А па тых, што з'явіліся замест іх, стала відавочнай знявага ўладаў, якія блаславілі сённяшні эфір, да гледачоў. З такой жа пагардай (а глядзяць БТ і ГНТ у асноўным вяскоўцы) ставіцца да іх "прасунутая" інтэлігенцыя, маўляў, ніякай грамадзянскай свядомасці, адна толькі пакорлівасць ды палітычная інертнасць. А вёска жыве рэальным і цяжкім жыццём, не вельмі давярае лухце, якая гучыць у эфіры, але амаль нічога не ведае аб тым, што робіцца ў краіне, бо знаходзіцца ў інфармацыйнай і культурнай блакадзе.

Аднадушша вёскі на выбарах — таксама ілюзія. Я, напрыклад, за апошнія пяць гадоў не сустрэла ніводнага старшыні альбо раённага спецыяліста, які б не разумеў, у якім становішчы знаходзіцца краіна. Радавыя ж сяляне — людзі паднявольныя, на якіх цісне такі вертыкальны слуп, што не ўздыхнуць, не войкнуць. Яны прывязаны да зямлі і поўнасцю залежаць ад улады. Так што, перш чым наракаць на "несвядомыя" масы, можа, варта самім нам, інтэлігентам, арганізаваць суботнік па ўборцы каменя, раскіданага ўладай? Пачаць, напрыклад, з шырокамаштабнай акцыі па вяртанні электронных СМІ грамадскасці, у якой узялі б удзел усе сумленныя, неабыякавыя да лёсу Айчыны людзі — незалежна ад іх сацыяльнай, партыйнай ці рэлігійнай прыналежнасці? І першым пытаннем да тых, хто хоча быць абраным у органы мясцовай улады, павінна быць: а што вы збіраецеся рабіць дзеля свабоды слова ў краіне? І, безумоўна, абавязкова трэба падтрымаць цудоўную ініцыятыву Аляксандра Рыгоравіча Лукашэнкі, які яшчэ ў сярэдзіне 90-х падкрэсліваў неабходнасць стварэння грамадскага назіральнага Савета за дзейнасцю электронных СМІ. Гаварыў ён і пра тое, што нельга прымушаць журналістаў паступаць насуперак іх маральным прынцыпам. Добра было б, каб усе мы помнілі гэтыя яго словы. А калі ён сам забыў — трэба напомніць.

Расказваць, што ў гады вялікай эканамічнай дэпрэсіі сярод грамадзян ЗША была распаўсюджана анкета з адзіным пытаннем: ці лічыце вы сябе прадстаўніком вялікай нацыі? І кожны амерыканец адказаў: "Так лічу!". З гэтага пачалося адраджэнне краіны. Дык можа, надышоў і для нас час адчуць сябе хаця б проста нацыяй, годнай жыць па нармальных чалавечых законах, а не ў свеце падменаў і падманаў?

**Ганна АРЦЮШКЕВІЧ.**

ПУЛЬС

## Еўрапейскі гуманітарны універсітэт атрымае свой будынак

Некалькі чатырохпавярховых карпусоў універсітэта будуць пабудаваныя на пляцоўцы каля Сляпянскага вадасховішча паміж вуліцай Філімонава і Старабарысаўскім трактам — непадалёк ад будучага будынка Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі.

Зараз на гэтым месцы плошчай прыкладна 5 гектараў размешчана 12 прыватных дамоў, што засталіся ад старой вёскі. Умовай гарвыканкама для заказчыка будаўніцтва з'яўляецца іх знос, паколькі ў горада на знос старых дамоў і добраўпарадкаванне гэтай тэрыторыі няма сродкаў. У адпаведнасці з генеральным планам Мінска ў гэтым месцы закладзена перспектыўнае размяшчэнне ландшафтна-рэкрэацыйнай зоны.

Плануецца, што ў новых карпусах, будаўніцтва якіх павінна завяршыцца да 2005 года (аднachасова з новым будынкам Нацыянальнай бібліятэкі), размесцяцца навучальныя памяшканні для 1,5 тысячы студэнтаў і бібліятэка. Акрамя таго, ЕГУ стане першым мінскім ВНУ з убудаванай аўтастаянкай у цокальным паверсе будынка.

**Лавінія АРЭШКА.**

## Гомельскія шпалеры будуць з «плацінай»

Плацінавыя медалі якасці атрымала на выставе ў Маскве прадукцыя гомельскага адкрытага акцыянернага таварыства "Гомельшпалеры".

Больш за 200 вытворцаў шпалераў з Расіі і Беларусі прынялі ўдзел у Міжнароднай выставе "Нацыянальная слава", што прайшла ва Усерасійскім выставачным цэнтры ў Маскве. Як паведаміў БелаПАН начальнік аддзела маркетынгу прадпрыемства Вячаслаў Андрэеў, шпалеры гомельскіх вытворцаў, прадстаўленыя на выставе, выклікалі сапраўднае захапленне. Плацінавыя медалі якасці былі прысуджаны калектыву ААТ "Гомельшпалеры" за ўсе асноўныя віды прадукцыі. Новыя ж узоры насценных пакрыццяў і вінілавыя шпалеры атрымалі Знак якасці XXI стагоддзя і залатыя медалі.

**Людміла ВАЛЕЎСКАЯ.**

## Няўдалы аўкцыён

Няўдалай аказалася спроба Віцебскага аблвыканкама выратаваць мясцовы бюджэт шляхам продажу акцый абласной маёмасці. Выстаўленыя на аўкцыён каштоўныя паперы 35 прадпрыемстваў аграпрамысловага комплексу не знайшлі пакупнікоў.

Не ўдалося збыць мяса-малочныя і льноперапрацоўчыя заводы, ад продажу якіх меркавалася атрымаць каля 30 мільярдаў рублёў. Абыякавасць патэнцыяльных інвестараў да абласной маёмасці ў многім тлумачыцца тым, што прапанаваныя пакупніком пакеты акцый утрымлівалі толькі ад 10 да 47% статутнага капіталу і, такім чынам, не давалі інвестарам набыць разам з акцыямі кантроль над прадпрыемствамі.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

## Людзі чакаюць скарачэнняў

Да 1 красавіка 2003 года ў Магілёўскай вобласці будзе завершана рэарганізацыя суб'ектаў комплексу, што абслугоўвае сельскую гаспадарку. З гэтай прычыны мяркуецца скарачэнне каля 2 тысяч работнікаў.

Перамены чакаюцца і ў перапрацоўчым комплексе вобласці. У прыватнасці, разглядаецца магчымасць скарачэння з 18 да 14 колькасці малочных заводаў з-за іх нізкай загружанасці, закрыцця неэфектыўных Глускага і Асіповіцкага кансервавых заводаў, Крычаўскага мясакамбіната.

**Канстанцін УВАРАЎ.**

ПРЭЗЕНТАЦЫЯ

## Чытайце «Альгердаву дзіду» Вольгі Іпатавай

У сядзібе ГА "БНФ "Адраджэньне" прайшла прэзентацыя кнігі вядомай пісьменніцы Вольгі Іпатавай "Альгердава дзіда". У кнігу ўвайшлі тры гістарычныя раманы, прысвечаныя станаўленню Вялікага княства Літоўскага і асобам, якія аказалі значны ўплыў на фарміраванне першай нашай дзяржавы.

З уступным словам да прысутных звярнуўся старшыня Партыі БНФ Вінцук Вячорка. Ён адзначыў выключную ролю Вольгі Іпатавай як пісьменніцы ў развіцці беларускай літаратуры і як чалавека, які шмат робіць для станаўлення беларускага грамадства. Зазначыў, што падчас відавочнага крызісу, які сёння перажывае беларуская інтэлігенцыя, спадарыня Іпатава застаецца прыкладам непахіснасці і прынцыповасці ва ўсіх пытаннях, што тычацца беларускасці.

Вольга Іпатава падзякавала ўсім прысутным у зале, а таксама ўсім тым, хто дапамагаў ёй у працы над кнігай і проста падтрымліваў пісьменніцу ў цяжкія хвіліны. Таксама зазначыла, што прэзентацыя твора адбываецца ў сядзібе ГА "БНФ "Адраджэньне", а калісьці першыя сустрэчы франтаўцаў праходзілі ў Доме літаратараў.

Як "набытак беларускай нацыі" акрэслілі твор Вольгі Іпатавай сябры пісьменніцы. Яны адзначылі унікальнасць і значнасць прэзентаванай кнігі, пажадалі творцы плённай працы і хутчэйшага з'яўлення новых кніг.

**Прэс-служба Партыі БНФ.**

ЖИЗНЬ КАК ОНА ЕСТЬ

# Как я стал олигархом

В конце прошлого года я стал невольным свидетелем разговора двух стоящих в очереди пенсионеров. Один рассказывал другому, как он к Новому году получил подарок — 25 тысяч рублей. Информация требовала уточнения, и я обратился в Министерство труда и социальной защиты за разъяснением. О разовых выплатах там ничего не знали и посоветовали обратиться в горисполком. Оттуда направили по двум адресам — в районную администрацию и в горсобес.

Разговор с работницей районной администрации был краток. Узнав размер моей пенсии (99.105 рублей), социально защищающая меня чиновница тоном, не терпящим возражений, сообщила, что мне ничего не положено, и в сердцах бросила телефонную трубку. Сотрудница горсобеса оказалась более контактной. Она сообщила о том, что выплаты действительно производились, но денег для этой цели уже нет, а кто не успел, тот опоздал. Узнав о моей пенсии, она голосом Поля Робсона пропела длительное "ого" и добавила: "Пенсионным олигархам помощь не оказывается!".

К тому, что мне "ничего не положено", я был готов с 1992 года! Вначале вместо оплаченного мной автомобиля власть предложила смешную компенсацию.

В 1993 году она, власть, из-за собственного разгильдяйства расторгла договор долгосрочного страхования, которым я застраховал свою внучку еще в 1982 году и за 11 лет выплатил государству немалую сумму денег. В 1996 году, несмотря на Указ президента №438, обязывающий приступить к поэтапному возмещению гражданам Республики Беларусь ущерба, причиненного незаконной финансовой деятельностью субъектов хозяйствования, власть умудрилась быстро и насмерть торпедировать это доброе начинание вместе с Указом президента.

Присвоение титула "пенсионный олигарх" оказалось неожиданным, но не обидным. Более того, я даже почувствовал себя более уверенно и подумал: может быть, мне только кажется, что моя пенсия маленькая, возможно, я не ощущаю этого денежного "громадья"? Поэтому я сравнил свой пенсионный потенциал с потенциалом пенсионера 1990 года, получавшего 120 рублей в месяц. Оказалось, что тогдашний средний пенсионер потенциально сильнее нынешнего "пенсионного олигарха" в 2,5 раза!

Как гражданину и олигарху мне удалось ознакомиться с документом, из-за которого началась эта история. Выяснилось, что 19 ноября 2002 года Минским горисполкомом было принято решение №1723, согласно которому в целях социальной поддержки малообеспеченных граждан главам администраций районов предписывалось обеспечить выплату единовременной денежной помощи в размере 25 тысяч рублей. К малообеспеченным гражданам были отнесены неработающие пенсионеры и инвалиды 1-й и 2-й групп, размер пенсий которых в октябре 2002 года не превысил утвержденного бюджета прожиточного минимума на душу населения.

Первая "заморочка" оказалась в первом пункте решения и заключалась в словах: "По заявительному принципу". В самом деле, если известно количество граждан, подпадающих под решение, для чего им писать заявления? Вторая непонятка вкралась во второй пункт решения. Там черным по белому написано: "Оказание помощи произвести...в сумме 28.275 тысяч рублей...". Если эту сумму разделить на размер помощи — 25 тысяч рублей — то по Малинину и Буренину получится, что решением №1723 можно "охватить" 1131 человека. Много это или мало для нашей двухмиллионной столицы?

Узнать, сколько малообеспеченных граждан на сегодняшний день проживает в Минске, не удалось. Зато стали известны данные по одному из районов. Картина довольно мрачная: нуждающихся граждан — 8000, а помощь получили 237 человек. Таким образом, коэффициент полезного действия (КПД) решения составляет 2,94 процента. Стали понятными фразы: "По заявительному принципу", "Кто не успел — тот опоздал".

**Леонид СКАЛУБО, "пенсионный олигарх".**

КРОПКІ НАД «І»

## Прыкрая недакладнасць па віне аўтара

Да ветэранаў мы, журналісты рэдакцыі, ставімся з асаблівай павагай. Іх лістам даём "зялёнае святло" ў першую чаргу. Давяраем настолькі, што ў некаторых выпадках не лічым неабходным перапраўляць кожны факт ці нейкую там лічбу.

Менавіта так аднесліся ў рэдакцыі і да ліста жыхара г.Мінска Аляксандра Плыгаўкі. І хто б мог падумаць, што ён, паважаны чалавек, пераблытае нумары паліклінікі. Яго разважанні выкліканы наведваннем дзяржаўнага доктара-стаматолага паліклінікі №7, а не №13, як гэта адзначаецца ў публікацыі "Вырвать зуб — проблема, поставить искусственный — проблема вдвойне" ("Народная воля", 20.12.2002 г.).

Звяртаючы ўвагу А.Плыгаўкі на тое, што сваёй недакладнасцю ён падвёў рэдакцыю, мы адначасова прыносім прабачэнне калектыву 13-й гарадской стаматалагічнай паліклінікі, які не мае ніякіх адносін да пытанняў пенсіянера А.Плыгаўкі. Просім усіх аўтараў лістоў у "Народную волю" больш уважліва ставіцца да кожнага слова.

**Рэдакцыя газеты "Народная воля".**

## Невушаву пагражае зняволенне да 7 гадоў

Завяршылася судовае следства па крымінальнай справе ў адносінах да дырэктара віцебскага замежнага прадпрыемства "Вітэла", былога старшыні гарвыканкама абласнога цэнтра Валерыя Невушава. Пасля спрэчак бакоў пракурор палічыў, што доказаў, сабраных супрацоўнікамі мясцовага ўпраўлення КДБ супраць Невушава, дастаткова для таго, каб пакараць яго пазбаўленнем волі ў калоніі строгага рэжыму на 7 гадоў і адзін месяц.

У сваю чаргу адвакаты падсуднага ўпэўнены, што ён ні ў чым не вінаваты, і заяўляюць, што следства было неаб'ектыўным, вялося са шматлікімі памылкамі, не ўтрымлівае пераканаўчых доказаў віны дырэктара.

Сам Невушаў сцвярджае, што абвінавачванні абсурдныя і што справа яго ўзнікла таму, што ён паспрабаваў навесці парадак на прадпрыемстве.

Цікава, што новы ўпраўляючы фабрыкі "Вітэла" з нямецкага боку, выступіўшы на судовым працэсе, падтрымаў Невушава і заявіў, што ў германскага канцэрна "Швартау", які з'яўляецца заснавальнікам замежнага прадпрыемства ў Віцебску, няма прэтэнзій да падсуднага.

Такім чынам, пакуль што нельга прадбачыць, якім будзе змест судовага прыгавору.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

## У Наваполацку павесіліся пяцёра мужчын

У першыя дні 2003 года ў Наваполацку адбылося пяць самагубстваў. Усе пяцёра — мужчыны ва ўзросце ад 47 да 62 гадоў, прычым усе яны павесіліся.

На водаправоднай трубе ва ўласнай кватэры павесіўся 47-гадовы аператар ААТ "Нафтан". У лясным масіве ў 150 метрах ад будынка мясцовага прадстаўніцтва "Пріорбанка" знойдзены труп 52-гадовага рабочага Полацкага малкамбіната, які павесіўся на дрэве на электрычным шнуры. Пакончыў з сабой 54-гадовы слесар ААТ "Палімір" — ён павесіўся ў сябе на кухні на вяроўцы для бялізны, прымацаванай да водаправоднай трубы. У сваёй кватэры павесіўся 62-гадовы пенсіянер. Знойдзены труп 54-гадовага механіка ААТ "Нафтазаводмантаж", які таксама павесіўся ва ўласнай кватэры.

**Андрэй АЛЯКСАНДРАЎ.**

О ВЫБОРАХ

# В Европе соревнуются партии, у нас — швеи-мотористки

*Вначале заголовок был другим — "Остановите музыку". Такие слова обычно бросают музыкантам, которые, как говорится, уже достали. Именно это хочется сказать, когда слышишь предвыборные трели как власти, так и оппозиции. Уже какую кампанию подряд звучат одни и те же мелодии, которые всегда заканчиваются фальшивыми аккордами, вызывающими радость одних и разочарование других. И всегда не признаются Западом.*

*Так не пора ли сменить предвыборный репертуар? И одним, и другим. Спросите: "А на какой?". Отвечаю: "На западноевропейский". Или хотя бы позаимствовать опыт соседей.*

Сколько оппозиционеров и журналистов наших побывало в последние годы в Польше и Литве на разных семинарах, выборах и тусовках. Не счесть! Но, похоже, околдованные местными мелодиями, они так и не уловили современные европейские нотки.

Вспомним, о чем они говорили и писали, возвратясь из странствий. О том, что в Литве и Польше приглашают на выборы наблюдателей из других стран, активно борются с нарушениями законодательства...

Это, конечно, важно, но не главное. Основные отличия избирательных кампаний, проводимых соседями, от наших — в другом. В Европе соревнуются партии, а не швеи-мотористки. Даже в России половина депутатов Государственной Думы избирается по партийным спискам. Почему?

Программу вывода страны из кризиса не смогут разработать ни доярка, ни швея-мотористка, если они даже и передовики производства. Ибо это под силу только ведущим экономистам и политикам. А они-то и кучкуются в партиях, а отнюдь не на животноводческих фермах.

Парламент, как известно, утверждает правительство. Но кого может предложить, скажем, бывшая швея-мотористка на пост министра обороны или министра экономики? Ведь наш генералитет, как и экономические светила, тусуются вовсе не в швейных цехах легпрома и даже не в правлениях колхозов. Ясно, что такие "депутаты из народа" проголосуют за того, кого им подсунет власть, ибо никого другого они не знают. Квалифицированное правительство могут предложить и утвердить только партии. Они же заранее готовят специалистов для работы в правительстве.

Нелишним будет вспомнить: какие обещания дают избирателям "выдвиженцы из народа"? А вот эти: отремонтировать школу, построить мостик через ручеек... Придя в парламент, они начинают добиваться выполнения своих обещаний. Их волнует не "строительство страны", чем и должен заниматься парламент, а строительство мостика через ручеек.

А теперь представьте сто или двести парламентариев, и каждый из них обеспокоен только собственным обещанием: то ли ремонтом школы, то ли обогревом птичника... Каждый из них рвется к микрофону и поет лишь о своем наболевшем: о птичнике и ручейке. Что получится? Балаган, а не парламент. Таким участникам дискуссии практически невозможно о чем-либо договориться. Ведь каждый связан своим обещанием.

Подобные парламенты-говорильни были еще в Древней Греции. 150 лет тому они существовали и в Европе. И уже тогда видели их слабость. Крупнейший теоретик государственного права тогдашнего германского общества Вильгельм Грэве утверждал: *"Только партии являются образованиями, способными заменить хаотическую борьбу всех против всех ясной позицией большинства социальных групп и создать дееспособные органы управления".*

Именно превращение выборного процесса в состязание партий и помогло построить современную Европу. У нас же партии обзывают "кучкой политиканов" и по-прежнему перекрывают им дорогу в парламент.

Словом, как ни крути, "выдвиженцы из народа" проигрывают по всем статьям тем, кого партии вносят в свои списки. Зато первыми очень легко управлять. Одного можно выдвинуть на работу в министерство — и он уже становится для власти своим. Другого включить в делегацию, отправляющуюся за рубеж, третьему посодействовать в решении какого-то важного для него житейского вопроса... Глядишь, и парламент стал "ручным", охотно штампует законы, нужные для представителей власти. Он служит уже не народу, избравшему его, а кучке политиканов, дорвавшихся до власти.

Или вот еще вопрос: о прозрачности и честности выборов. Весь процесс движения бюллетеней, от печатания до поступления на избирательные участки, должен быть под общественным контролем. Урны во время голосований и подсчет голосов — тоже. Для этого и необходимо, чтобы примерно половина избирательных комиссий состояла из представителей оппозиции. Чтобы они могли контролировать весь процесс. А что у нас? Ну включат одного оппозиционера в участковую комиссию. Отойдет он перекусить или, извините, в туалет, и в это время можно и пачку нужных бюллетеней затолкать, и урну подменить и т.д.

Кто и где это детально "разложил по полочкам"? В какой статье или лекции? А ведь можно было бы эти прописные истины давно втолковать рабочему классу и трудовому крестьянству. И тогда, куда бы ни заехал Александр Григорьевич, ему докучали бы не только вопросами: "Почему растут цены? Почему собираются увеличивать пенсионный возраст?", но и спрашивали бы: "Когда будут честные выборы по партийным спискам?".

Когда-то среди тусовочных мэтров, раздосадованных такой разъяснительной работой, бродила идея о создании группы толковых авторов, которые могли бы сочинить материалы на тему выборов и для печати, и для аудитории. Насколько мне известно, она одобрялась экспертами ОБСЕ. Может, стоит вернуться к ней?

Сейчас на разных общественных тусовках не смолкают дискуссии на тему: "Участвовать в выборах или не участвовать?". Более наивного вопроса и не придумать.

Для чего же создаются партии? Чтобы участвовать в выборах. В выборах, но не в фарсе или их имитации.

Вне всяких сомнений, участие в избирательной кампании необходимо. Это хорошая возможность для разъяснительной работы среди населения. Но при этом следует настойчиво добиваться совершенствования законодательства и практики проведения выборов с тем, чтобы они были прозрачными и честными. Ежели власть не захочет идти на это, то, по-моему, и не следует участвовать в голосовании. Лучше на последнем этапе снять своих кандидатов и отказаться от игры в выборы. Думается, что оппозиция допустила большую ошибку, когда не поступила так на последних президентских выборах.

Итак, есть над чем задуматься. В первую очередь власти. Ибо путь, которым она движется, хорошо известен. Это путь иракского Хусейна, югославского Милошевича, кубинского Кастро, северокорейских лидеров... И финал его тоже известен. Так, может, и в самом деле пора остановиться? Фальшивые выборы никому не нужны.

**Алесь ДРАБЧУК.**

